Гродна
№11 (493),
27 мая 2018
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Вялікія прыклады маленькіх людзей

У гісторыю Каталіцкага Касцёла ўпісана шмат імён хлопцаў і дзяўчат, якія былі абвешчаны бласлаўлёнымі ці святымі дзякуючы ўласнаму прыкладу хрысціянскай мужнасці і ахвярнай любові да Бога і бліжняга. Напярэдадні Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці прапануем пазнаёміцца з жыццёвым шляхам тых малых, самаадданасць якіх здабыла ім асбалівую ласку ў Пана.

● працяг на с. 4



# Быць клапатлівым і ўважлівым татам

У першую нядзелю чэрвеня ў Гродзенскай дыяцэзіі адзначаецца Дзень бацькі, калі ва ўсіх святынях моляцца за жывых і памерлых татаў. Кожны бацька з'яўляецца стаўпом сям'і. Неабходна, каб ён быў блізкі да жонкі, каб раздзяляў з ёй усё: радасці і пакуты, цяжкасці і надзеі. А яшчэ, каб спадарожнічаў дзецям у іх сталенні: калі яны разгубленыя і заклапочаныя, калі гуляюць і працуюць, выказваюцца і маўчаць, храбрацца і пужаюцца, робяць памылковыя крокі і вяртаюцца на правільны шлях.

● працяг на с. 3

"Не забывайма, што Езус побач са сваімі дзецьмі, зусім побач – у сэрцы". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### НЯДЗЕЛЯ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ТРОЙЦЫ

**Мц 28, 16–20**

Адзінаццаць вучняў пайшлі ў Галілею на гару, куды загадаў ім Езус. І калі Яго ўбачылі, пакланіліся Яму, але некаторыя засумняваліся. Тады Езус наблізіўся да іх і сказаў ім: “Дадзена Мне ўсялякая ўлада на небе і на зямлі. Дык ідзіце і навучайце ўсе народы, і хрысціце іх у імя Айца і Сына, і Духа Святога. Вучыце іх захоўваць усё, што Я загадаў вам. І вось Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэння веку”.

### АБВЯШЧАЦЬ ЛЮБОЎ

У Старым Запавеце не гаворыцца пра Святую Тройцу. Грань таямніцы прыадкрывае толькі Новы Запавет, паколькі Езус Хрыстус неаднойчы закранаў гэтую тэму ў сваіх навучаннях. Пасылаючы апосталаў абвяшчаць Евангелле, наказваў ім хрысціць у імя Айца, Сына і Святога Духа. Разам з вучнямі Ён заклікае да гэтай місіі і нас: каб ішлі і навучалі, абвяшчаючы любоў, дзелячыся з бліжнімі.

Сённяшняя ўрачыстасць нагадвае нам, што хрысціянства – гэта не сухая тэорыя, а, найперш, любоў на практыцы. Любоў, фундаментам якой з’яўляецца Найсвяцейшая Тройца і якая павінна стаць крыніцай нашага жыцця. Грунтуецца яна на поўным адкрыцці сябе на Бога і абсалютным з’яднанні з Ім. Усемагутны прагне, каб у нас адлюстраваўся вобраз узаемаадносін Айца, Сына і Духа; каб мы сталі жывой іконай, месцам прысутнасці Тройцы.

Давайце прымем у сваё сэрца Найсвяцейшую Тройцу як доказ бязмежнай веры і аўтэнтычнай любові.

**Ці дастаткова я адкрыты на Божую дзейнасць і кіраванне?**

**Як рэалізую ў сваім жыцці місійны наказ Хрыста?**

### IX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мк 2, 23–28**

Аднойчы ў шабат, калі Езус праходзіў праз пасевы, вучні Яго пачалі па дарозе зрываць каласы. Тады сказалі Яму фарысеі: “Глядзі, чаму яны робяць у шабат тое, што не дазволена?”. Ён сказаў ім: “Няўжо вы ніколі не чыталі, што зрабіў Давід, калі меў патрэбу і згаладаўся ён і тыя, хто быў разам з ім? Як увайшоў у дом Божы ў часы першасвятара Абіятара і еў ахвярныя хлябы, якіх нельга есці нікому, акрамя святароў, і даў тым, хто быў з ім?”. І сказаў ім: “Шабат устаноўлены для чалавека, а не чалавек для шабату. Таму Сын Чалавечы – гаспадар шабату”.

### УМЕЦЬ ДЗЯКАВАЦЬ

Паміж фарысеямі і Езусам часта адбываліся канфлікты. Спрэчкі ўзнікалі галоўным чынам на фоне ўяўнага незахавання Хрыстом закона Майсея. Хоць Збаўца неаднойчы паўтараў, што прыйшоў не каб скасаваць, а каб выканаць закон, Яго інтэрпрэтацыя не падабалася кніжнікам. Прычынай непаразумення было тое, што фарысеі засяроджваліся на літарах закона, а Хрыстос гаварыў пра яго дух.

У сённяшнім Евангеллі адбываецца падобны канфлікт. Езус тлумачыць, што не чалавек быў устаноўлены для шабату, а наадварот. Гэта павінен быць дзень, падчас якога асоба скіроўвае сваю ўвагу на Бога, разам з тым прыгадваючы ўласныя абавязкі перад Ім.

Святы дзень павінен быць часам, каб асаблівым чынам выказаць удзячнасць Богу за жыццё, здароўе, клопат, веру, збаўленне – за ўсё.

**Ці памятаю, што павінен святкаваць святы дзень?**

**Ці здольны за ўсё дзякаваць Усемагутнаму?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Быць дзіцём Бога!

*Знаходзячыся ў раі, Адам і Ева парушылі наказ Стварыцеля і з’елі плод з забароненага дрэва, здзяйсняючы такім чынам першародны грэх. Мы, патомкі зямных прабацькоў, унаследавалі ад іх гэтую віну. Аднак хрост абмывае нас ад бруду непаслухмянасці, каб упоўні маглі цешыцца бязмежнай любоўю Усемагутнага. Прыняцце гэтага сакраманту з’яўляецца пачаткам новага жыцця – мы назаўсёды становімся дзецьмі Бога. І вызнаём гэтую праўду кожны раз, калі паўтараем словы малітвы, якой навучыў нас Езус Хрыстус: “Ойча наш, каторы ёсць у Небе”.*

Быць чыімсьці дзіцём – значыць унаследаваць пэўныя рысы, асаблівасці характару, належаць да сямейнай гісторыі і несці за яе адказнасць. Як дзіця пераймае паводзіны сваіх бацькоў, так мы, будучы дзецьмі Найвышэйшага, павінны імкнуцца да пераймання Яго святасці. Як дзіця поўнасцю давяраецца бацькам, так і мы можам усё даверыць любячаму Айцу.

У гэтым заключаецца шаленства любові, аб’яўленай Богам праз Хрыста: Пан, якога ўспрымалі як усемагутнага Валадара і справядлівага Суддзю, становіцца нашым Татам. Ён так моцна палюбіў людзей, што прыходзіць у нашыя сэрцы, каб там трываць і ўмацоўваць нас на складаным жыццёвым шляху. Усведамляючы веліч гэтай ласкі, св. Павел так пісаў у адным са сваіх пасланняў: “Бласлаўлёны Бог і Айцец Пана нашага Езуса Хрыста; [...] Ён выбраў нас у Ім перад стварэннем свету [...]. Ён прадвызначыў нас для ўсынаўлення праз Езуса Хрыста, паводле ўпадабання сваёй волі” (Эф 1, 3–6).

Аднак быць дзіцём – значыць не толькі мець пэўныя прывілеі, але і абавязкі. А быць дзіцём самога Бога – гэта вялізная адказнасць, бо не заключаецца выключна ва ўпісанні нас у нябесную картатэку, але і ў пэўным духоўным супрацоўніцтве. Св. Тэрэза Бенедыкта ад Крыжа казала: “Быць дзіцём Усемагутнага – значыць аддаваць сябе ў Яго рукі, выконваць Яго волю, даручаць Яму свае клопаты і надзеі, не мучыцца страхам перад будучыняй. У гэтым заключаецца сапраўдная вольнасць і вяселле Божых сыноў”.

## Дарагія Чытачы!

Давайце выхоўваць у сабе Божае дзяцінства. Давайце памятаць, што мы залежым ад Усемагутнага, для якога няма нічога немагчымага. У сваіх малітвах папросім, каб Пан даў нам ласку нанова адкрыць глыбокі сэнс сакраманту хросту, дзякуючы якому мы сталі дзецьмі Бога.

## “НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ”

# БЛ. МАЛГАЖАТА ЛУЦЫЯ ШЭЎЧЫК: ЗАСТУПНІЦА ЎБОГІХ І СІРОТ



*У іканаграфіі бл. Малгажату Шэўчык прадстаўляюць у манаскім хабіце з ружанцам у руцэ.*

**Прысвяціла жыццё патрабуючым. Заснавала бесхабітовую супольнасць, якая апекуецца беднымі. Навучала дзяцей катэхізму, клапацілася пра касцёлы на роднай Валыні. Ва ўсім шукала волю Бога.**

### СЛУЖЫЛА САМЫМ СЛАБЫМ

Луцыя Шэўчык нарадзілася ў 1828 годзе ў Шэпетоўцы каля Заслаўля на Валыні (Украіна) у заможнай сям’і. Калі ёй было ледзьве 9 гадоў, стала сіратой. Апеку над дзяўчынкай узяла старэйшая зводная сястра. Дзякуючы ёй Луцыя атрымала добрую адукацыю.

Ужо ў маладосці адкрыла ў сабе пакліканне да манаскага жыцця. Аднак у сувязі з палітычнай сітуацыяй на Валыні не магла яго рэалізаваць: кляштары ліквідавалі, касцёлы закрывалі, духавенства высылалі ў Сібір. Таму ўступіла ў III Ордэн св. Францішка і старалася жыць паводле евангельскіх парад. Клапацілася аб святыні, шыла і вышывала літургічную бялізну, рыхтавала дзяцей да Першай св. Камуніі, апекавалася беднымі.

Маючы 42 гады, вырушыла ў пілігрымку ў Ерусалім. Цяжкасці падарожжа ахвяравала ў інтэнцыі Касцёла на Валыні. Першы этап дарогі (1800 кіламетраў) прайшла пяшком. Праз Бердычаў і Вінніцу дабралася да Адэсы, дзе села на карабель. На Святой Зямлі знаходзілася каля 3-ох гадоў. Працавала ў шпіталі св. Юзафа разам з французскімі манахінямі і надалей разважала над тым, як можа рэалізаваць сваё жаданне служыць найбяднейшым.

Пасля вяртання на радзіму пазнаёмілася з а. Ганаратам Казьміньскім, які на акупаваных землях засноўваў таемныя супольнасці. Іх члены жылі як свецкія, евангелізуючы ўпотай. Так паўстала 26 ордэнаў. Сузаснавальніцай аднаго з іх стала Луцыя, якая атрымала новае імя – Малгажата. Яна купіла ў Закрочыме дом і на ўласных плячах унесла ў яго 2-юх першых бабулек. Такі быў пачатак Кангрэгацыі Дачок Маці Божай Балеснай (серафіткі). Затым у Асвенціме жанчына пабудавала кляштар, які стаў генеральным домам кангрэгацыі, што прагнула служыць пакінутым і хворым, а таксама вучыць і выхоўваць на рэлігійных вартасцях дзяцей у адкрываемых дзіцячых дамах і прытулках.

Памерла 5 чэрвеня 1905 года. Беатыфікавана папам Францішкам 9 чэрвеня 2013 года ў Кракаве.

Праз заступніцтва бл. Малгажаты адбываюцца шматлікія цуды: вернікі дзякуюць за перамяненне сэрца і вызваленне ад залежнасці, дапамогу ў цяжкіх справах, паспяховую аперацыю і аздараўленне, шчаслівае нараджэнне дзіцяці і ацаленне ад аварыі.

### ЧАМУ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў БЛ. МАЛГАЖАТЫ?

Бласлаўлёная вучыць поўнасцю давяраць Божаму Провіду. З’яўляецца прыкладам жывой веры і асаблівай пашаны да Маці Божай Балеснай. Праз свае адносіны да Эўхарыстыі – крыніцы яе апостальскага запалу – служыць узорам аддананага трывання пры Езусе Хрысце.

### ЦІКАВА!

Ужо падчас перанясення парэшткаў бласлаўлёнай у кляштарны касцёл прысутная на гэтай урачыстасці жанчына з Асвенціма атрымала ласку поўнага аздараўлення ад шматгадовай хваробы.

### З ВУСНАЎ БЛАСЛАЎЛЁНАЙ

“Трэба жыць і давяраць Богу – Ён не пакіне, заўсёды будзе нас падтрымліваць”.

### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае бл. Малгажату 5 чэрвеня.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Быць клапатлівым і ўважлівым татам

● працяг са с. 1

*Як бацькоўства змяняе жыццё мужчыны? У чым заключаецца роля бацькі і мужа ў сям'і? Што значыць быць сапраўды добрым татам? – пытаемся ў мужчын, якія з'яўляюцца апорай для сваіх жонак і дзяцей.*

## Арцём Ткачук



*Яшчэ да нараджэння дзіцяці мне трапіла на вочы такое выказванне: "Няма сэнсу выхоўваць дзяцей. Яны ўсё роўна вырастуць такімі ж, як ты. Выхоўвай сябе". Гэтыя словы вельмі мяне ўразілі і вось ужо на працягу некалькіх гадоў застаюцца ў памяці. Я імкнуся любіць Бога, размаўляць з Ім, быць верным мужам, выконваць запаведзі – у гэтым, лічу, і заключаецца мая галоўная роля. Такім павінен быць добры муж, бацька і сын.*

*Пасля нараджэння дачкі я толькі ўпэўніўся ў вышэйсказаным. Дзіця глядзіць, як я жыву, як стаўлюся да жонкі, іншых людзей, яно капіруе мае словы, эмоцыі, звычкі. Калі я стаў бацькам, то лепш зразумеў Божую любоў. Асэнсаваў, што значыць любіць проста так, без умоў, адчуў, што гатовы прабачыць сваіму дзіцяці ўсё на свеце. Але гэтая любоў абмежаваная – накіравана толькі на дзіця, а вось каб такім жа чынам палюбіць бліжніх… А Бог жа іменна такі.*

*Я мару, каб мае дзеці, калі вырастуць і зразумеюць шмат чаго ў жыцці, не сказалі пра мяне: "мой тата двулічны", "тата не шануе маму", "тата дрэнны". Хацелася б здаць гэты самы галоўны экзамен перад дзецьмі – ніколі не страціць аўтэнтычнасці. Мару, каб Слова ўцелаўлялася ўва мне, каб людзі глядзелі на маё жыццё і пыталіся пра Бога. На жаль, пакуль не пытаюцца, але я не здаюся!*

## Уладзімір Крупенка

*Мне зараз вельмі блізкі вобраз мужа і бацькі, як "галавы цела". Муж у сям'і галоўны, але ў той жа час, як галава не можа існаваць без цела, так і муж не зможа доўга праіснаваць без жонкі і дзяцей. І тут не ідзе гаворка пра тое, што калі жонка паедзе да мамы, то муж адразу прападзе. Справа ў тым, што добрыя адносіны ў сужэнстве ўзбагачаюць: духоўна, эмацыйна і нават фізічна. Сямейнае жыццё вучыць любіць па-сапраўднаму. Днём атрымліваеш гэтыя веды, а ўвечары здаеш іспыт.*

*Часта ў паўсядзённым жыцці даводзіцца сутыкацца з цяжкімі пытаннямі і заданнямі, ад якіх пачынае "балець галава". Але зараз, пасля 2-ух гадоў сужэнскага жыцця, такіх момантаў стала ў некалькі разоў менш. Бо цяпер я не адзін. Змагаца прасцей.*

*Як змянілася маё жыццё са з'яўленнем дзіцяці? Стала цікавей і складаней. У адносінах моцна нічога не перамянілася, стала толькі больш момантаў, калі любіць трэба не толькі з радасцю, але і з вялікай стомаю. А цікава тое, што Бог паклікаў быць сведкам цуду станаўлення чалавека чалавекам, што для чагосьці прыдумаў гэтыя 6 першых гадоў жыцця, калі дзеці асабліва патрабуць бацькоў. І для мяне пакуль застаецца вялікім пытаннем, каму гэты час прыносіць больш карысці: дзіцяці ці бацькам.*

*Роля мужа ў сям'і – любіць. Любіць пры розных абставінах і па-рознаму. Добры бацька – гэта той, хто любіць сваю жонку. Я заўважаю, як цешыцца наша дачка, калі бачыць праявы нашай любові адзін да аднаго. Падаецца, што больш нічога і не трэба. Але яшчэ прашу ў Бога, каб, калі прыйдзе момант і трэба будзе перапрасіць у дзіцяці, зрабіць гэта адважна і хутка.*

## Андрэй Трышын



*Кожны мужчына нясе адказнасць за сваю жонку і дзяцей. Не сакрэт, што ў сям'і часам здараюцца складаныя сітуацыі, бо не бывае, каб усё жыццё прайшло роўна і гладка. Гэта і хваробы дзяцей, і фінансавыя цяжкасці, і непаразуменні паміж сужонкамі. Яны загартоўваюць і выпрабоўваюць сям'ю на трываласць.*

*Добры бацька-хрысціянін ніколі не будзе ўцякаць ад цяжкасцей і бытавых праблем у гараж ці да сяброў, заглушаць клопаты алкаголем. Наадварот, ён будзе заступнікам і абаронцам сям'і, не будзе цурацца сваіх абавязкаў, падтрымае блізкіх не толькі добрым словам, але і ўчынкамі. Тады дзеці і жонка будуць упэўнены ў тым, што побач знаходзіцца любячы муж і тата, які ніколі не пакіне, не здрадзіць.*

*Маю траіх дзяцей і стараюся знаходзіць час для кожнага з іх. Не толькі, каб пагуляць, але каб спакойна пагаварыць, нешта абмеркаваць, вырашыць іх "дзіцячыя" справы і пытанні. Таксама лічу вельмі важным, што нашай сям'і ўдалося закласці ўласныя традыцыі: кожны вечар мы ўсе разам молімся і дзякуем Богу за пражыты дзень, за ўсе атрыманыя ласкі; са старэйшым сынам спавядаемся кожную першую пятніцу месяца.*

*Я з'яўляюся ўдзельнікам групы "Мужчыны св. Юзафа" – гэта суполка католікаў, якія хочуць дасягнуць у сваім духоўным развіцці большага. Дзякуючы ёй я ўзмацняю свой хрысціянскі стрыжань, што, спадзяюся, дапаможа мне выгадаваць дзяцей як шчырых вернікаў. І зрабіць гэта не прымусам, а сваім жыццёвым прыкладам.*

## Чэслаў Жых



*Сямейнае жыццё – гэта своеасаблівы пасьянс. Пазбегнуць памылак не атрымаецца, бо, як кажуць, "без паражэння не будзе перамогі". Муж – ледзь не галоўная палова пасьянса. І калі мужчына гэта зразумее, калі будзе верыць у Пана Бога, захоўваць традыцыі, будзе мець прыклад бацькоў, то ёсць надзея, што сям'я вытрымае сваю місію тут, на зямлі.*

*Бацька з'яўляецца прыкладам. Добрым ці благім – залежыць ад яго. І не важна, строгі ён ці не, у камандзіроўках увесь час ці дома, бацька павінен памятаць, што дзеці глядзяць на яго, слухаюць. На маю думку, быць добрым татам – значыць быць цярплівым, справядлівым, мець надзею і веру ў сваіх дзяцей. Падобна як Айцец Нябесны, які любіць нас бязмежна, але потым кожнага будзе судзіць справядліва.*

*Якія парады я магу даць сённяшняму пакаленню маладых татаў? Шануйце сваіх бацькоў, бо ад гэтага залежыць, як потым будуць Вас шанаваць Вашы дзеці. Захоўвайце традыцыі, якія панавалі ў Вашай сям'і, каб не губляліся, а перадаваліся далей. Знаходзьце час на тое, каб выслухаць сваіх дзяцей, зразумець іх. Бо, калі Вы іх не пачуеце, яны пойдуць да кагосьці іншага ці закрыюцца ў сабе, і сувязь паміж Вамі парушыцца. Маліцеся за сваіх дзяцей кожны дзень.*

## Юрый Санько



*Галоўная роля добрага бацькі – навучыць сваіх дзяцей пазнаваць і любіць Пана Бога ў Святой Тройцы, навучыць давяраць Усявышняму і паказаць, што з Богам мы можам пераадолець любыя цяжкасці ў сваім жыцці.*

*Я ўпэўнены, што сапраўды добры муж і тата – гэта той мужчына, які не толькі словамі, але, найперш, паводзінамі паказвае сваю любоў да жонкі і дэманструе павагу да іншых людзей. Ён аддае свой вольны час сям'і. Добры бацька вучыць сваіх дзяцей мужнасці, адказнасці за свае ўчынкі. Ён заўсёды гатовы выслухаць, раздзяліць з дзецьмі іх радасці ці перажыванні.*

*Сапраўдны мужчына павінен быць абаронцам сваёй сям'і, а таксама слабых і тых, хто не можа за сябе пастаяць. Таму для мяне вельмі важна праблема абароны жыцця. Яно з'яўляецца Божым дарам, што можа быць важнейшым за яго? Мы, мужчыны, нясём адказнасць за новае жыццё. Некалі ўсе мы сустрэнемся з нашым Стварыцелем, Панам Богам, і Ён, напэўна, спытае, як мы любілі не толькі сваіх блізкіх, але і іншых людзей, што зрабілі дзеля аховы пачатых дзяцей – самых слабых і безабаронных.*

## Малітва за бацькаў

**Блаславі, Божа, усіх бацькаў: і маладых, і старых.**

**Блаславі маладога бацьку, які ўпершыню трымае сваё дзіця на руках. Дай яму сілы, каб мог задаволіць патрэбы дзіцяці, але ў першую чаргу дай яму любоў, каб мог ёй напоўніць галоднае сэрца немаўляці. Дай час і жаданне, каб стаў сябрам для свайго дзіцяці. Дай мудрасць, цярплівасць, справядлівасць у выхаванні. Учыні яго героем у вачах дзіцяці. Такім чынам слова "бацька" заўсёды будзе ў яго атаясамлівацца з чалавекам правым, які можа ўсё.**

**Божа, блаславі таксама бацькаў старэйшых дзяцей, якія – на іх думку – не спраўдзілі бацькоўскіх надзей. Татаў, стомленых працай для сваіх дзяцей, якім тыя здаюцца бяздумнымі, няўдзячнымі, крытычнымі, бунтаўнікамі. Блаславі гэтых бацькаў і суцеш іх.**

**Застанься з кожным татам тады, калі надыходзіць час развітацца з сынам ці дачкой. Калі дзіця пакідае родны дом, бацькам таксама неабходна падтрымка (не толькі маці плачуць).**

**Ты, Божа, як наш Нябесны Айцец дасканала разумееш бацькаў. У Тваёй бясконцай любові (і бясконцым досведзе!) блаславі бацькаў. Усіх: і маладых, і старых.**

*Кінга Красіцкая*

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Перамена, якую здзяйсняе Святы Дух […] не рэвалюцыянізуе жыццё навокал, а перамяняе сэрца; не вызваляе нас у той жа момант ад праблем, але робіць свабоднымі ўнутрана, каб маглі супрацьстаяць ім; не дае ўсяго адразу, але робіць так, што ідзём упэўнена, не стамляючыся жыццём. Святы Дух падтрымлівае маладосць сэрца. Любоў, нягледзячы на ўсе спробы яе прадоўжыць, рана ці позна мінае. І толькі Святы Дух прадухіляе нездаровае старэнне, тое ўнутранае. Як Ён гэта робіць? Аднаўляючы сэрца, перарабляючы яго з сэрца грэшніка ў сэрца таго, каму прабачана. Гэта вялікая перамена: з вінаватых робіць нас справядлівымі. Такім чынам усё змяняецца, таму што з нявольнікаў граху становімся вольнымі, са слуг – дзецьмі, з адкінутых – цэннымі, з расчараваных – поўнымі надзеі. Так Святы Дух спрыяе таму, што радасць адраджаецца, што ў сэрцы квітнее супакой.*

*Фрагмент гамііі, прамоўленай у Ватыканскай базіліцы ва ўрачыстасць Спаслання Святога Духа*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Спасланне Святога Духа – гэта нараджэнне Касцёла. Менавіта ў дзень Пяцідзясятніцы, умацаваныя 7-ю дарамі Святога Духа, апосталы мужна выйшлі на вуліцы Іерусаліма, каб абвяшчаць укрыжаванага і ўваскрослага Хрыста. І, як сведчаць Дзеі Апосталаў, у якіх запісана гісторыя першаснага Касцёла, шмат людзей прыняло хрост. Тады распачаўся працэс евангелізацыі, дзякуючы якому многія народы, таксама і наш, пачулі Евангелле і прынялі хрост.*

*У сакраманце канфірмацыі Бог умацоўвае нашы духоўныя сілы. Менавіта таму перад сваім Унебаўшэсцем Езус сказаў вучням, што пашле свайго Духа, які будзе з намі ва ўсе часы і навучыць, як павінны паступаць.*

*Мы ўсе патрабуем гэтай дапамогі, асабліва моладзь. І Бог праз Святога Духа прыходзіць з ёй да нас. Неабходна толькі адкрыцца на Яго і дазволіць дзейнічаць.*

*У гімне да Святога Духа молімся: "Прыйдзі, Дух Святы, і аднаві аблічча зямлі". Аблічча зямлі – гэта не толькі не столькі новыя прыгожыя мікрараёны з развітой інфраструктурай, басейнамі, стадыёнамі, добрымі сучаснымі аўтамабілямі і г. д., гэта, найперш, людзі і іх духоўны стан.*

*Фрагмент гаміліі падчас св. Імшы з удзяленнем сакраманту канфірмацыі ў гродзенскай парафіі Святога Духа*




◆ *У Польшчы святары арганізавалі на вуліцы “дзяжурствы для няверуючых”. Кожную пятніцу ад 20.00 да 2.00 на лаўцы ў папулярным, асабліва сярод моладзі, месцы адпачынку святар будзе чакаць, пакуль хто-небудзь не падыдзе, каб проста пагаварыць, штосьці абмеркаваць, можа, паплакаць ці папрасіць аб дапамозе ў пазнанні Бога. Святарскія „дзяжурствы” скіраваны на няверуючых людзей, агностыкаў і тых, хто лічыць, што для іх няма месца ў Касцёле.*

◆ *Канцлер Германіі Ангела Меркель атрымала ў дар ад братоў з кляштара ў Асізі Лампаду міру св. Францішка за яе ўклад у справу мірнага суіснавання народаў. Узнагарода ў розныя гады ўручалася вялікай колькасці рэлігійных, грамадскіх і палітычных дзеячаў, якія так ці інакш прычыніліся да справы міру. Сярод тых, хто раней атрымліваў гэты дар ад асізскіх братоў, 3 апошнія Папы Рымскія, духоўны лідар Тыбета Далай Лама, а таксама 2 былыя прэзідэнты: Польшчы – Лех Валенса – і Савецкага Саюза – Міхаіл Гарбачоў.*

◆ *З нагоды 98-годдзя з дня нараджэння св. Яна Паўла ІІ адбылася цудоўная ініцыятыва “Нацыянальнае чытанне «Evangelium Vitae»”, якая стала падарункам для святога Папы-паляка. Аўтарам ідэі стаў Рафал Гавэнда, актывіст pro-life з Чанстаховы. “Evangelium Vitae” – адна з самых важных энцыклік у гісторыі Касцёла і, праўдападобна, найважнейшая ў нашы часы. Ян Павел ІІ навучае ў ёй аб вартасці, святасці і непарушнасці чалавечага жыцця.*

◆ *Цягам бліжэйшых 3-ох гадоў у Рыме паўстане касцёл для маладых. Аб гэтым супольна паведамілі Джэнрыка Руца, дапаможны біскуп Рымскай дыяцэзіі, і Давід Марыя Занчы, старшыня вялікай рымскай гандлёвай сеткі “Euroma2”, якая сфінансуе працы над праектам. У новай святыні прадугледжаны 3 навы і прылягаючая да яе плябанія. Аднак гэта будзе не парафія ў сціслым значэнні гэтага слова, а, хутчэй, месца культу, прызначанае, у першую чаргу, для моладзі.*

◆ *У будынку брытанскага Парламента адкрыта фотавыстава “50 Faces”, якая дэманструе цяжкі лёс жыхароў Святой Зямлі. Экспазіцыя складаецца з 50-ці чорна-белых партрэтаў ізраільцян і палестынцаў. Да большасці фотаздымкаў далучана інтэрв’ю, у якім асобныя людзі дзеляцца сваім жыццёвым вопытам у гэтай усё яшчэ неспакойнай частцы свету. Лічба 50 з’яўляецца адсылкай да сёлетняй 50-ай гадавіны т. зв. “шасцідзённай вайны”, араба-ізраільскага канфлікту, які ізраільцяне лічаць пачаткам свабоды, а палестынцы – пачаткам акупацыі, што трывае да сёння.*

*catholic.by; catholicnews.by; niedziela.pl; ekai.pl*

# Вялікія прыклады маленькіх людзей

● *працяг са с. 1*



## “Будзь дзіцём Бога”

Так гучыць дэвіз VIII Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці, які пройдзе ў Гродне 2 чэрвеня. Ізноў на тэрыторыі парафіі ў мікрараёне Паўднёвы збярэцца безліч хлопцаў і дзяўчат, якія імкнуцца пазнаваць і праслаўляць Госпада. Зразумела, мерапрыемства, на якім сустракаецца мноства дзіцячых характараў, не абыходзіцца без неспадзяванак: адны прыемна здзіўляюць, другія непакояць сваімі паводзінамі. Але кожны з гэтых малых мае рысу, якую моцна ўпадабаў Хрыстос. Яны становяцца перад Ім у шчырасці і прастаце, чаго так часта не хапае старэйшым.

Аднак гэта не ўсё, што захапляе Збаўцу ў дзецях. Несапсаваныя светам дарослых, дзе так часта пануе крывадушнасць, яны не ўмеюць прыхоўваць свае правіны пад апраўданнямі. Іх непасрэднасць дазваляе ім радавацца кожнай дробязі: ці то дробная кветка, ці то простая фігура, якую малюе на сцяне сонечны промень. Хлопцы і дзяўчаты ўпоўні цешацца тым, што маюць ад Пана, не прэтэндуючы на большае. Здольны прысвячаць Яму свае самыя дробныя дасягненні і не ўмеюць “выслужвацца” перад Ім дзеля ўласнага самасцвярджэння. Але галоўнае – дзеці разумеюць, што залежаць ад сваіх бацькоў, і не баяцца аддавацца іх абсалютнаму кіраўніцтву.

Менавіта таму заклік “Будзь дзіцём Бога” актуальны таксама для кожнага дарослага верніка. Госпад хоча, каб у адносінах з Ім мы былі як сын ці дачка, якія бязмежна давяраюць свайму Айцу.

## Маленькія жаўнеры Хрыста

***За прастатой дзіцячага сэрца нярэдка хаваюцца самыя гераічныя цноты. Напэўна, многія чулі пра адвагу 3-ох пастушкоў з Фацімы, самаадданасць св. Дамініка Савіо ці адвагу св. Марыі Гарэцці. І гэта толькі невялікая частка тых дзяцей, якія былі вынесены да хвалы алтара.***

### Св. Тарсіцый. Абараніць самога Бога

Тарсіцый жыў у Рыме ў першыя стагоддзі хрысціянства – часы самага бязлітаснага праследавання прыхільнікаў Езуса. У лепшым выпадку выкрытага верніка асуджалі на турэмнае зняволенне, у горшым – ён станавіўся ахвярай дзікіх жывёл, што раздзіралі сваю здабычу на арэне дзеля пацехі рымскіх жыхароў.

Інакш кажучы, хлопчык ведаў, што яго чакае, калі пройдзе чутка пра ягоную прыналежнасць да хрысціянскай абшчыны. І юнага верніка гэта не палохала. Тарсіцый не толькі ўдзельнічаў у супольных малітвах, але і старанна выконваў абавязкі міністранта. Ён горача верыў у прысутнасць Бога ў Гостыі і жыццёву неабходнасць сілкавацца Целам Хрыста.

У цяжкіх абставінах тых часоў перад хрысціянамі неаднаразова ўзнікала пытанне: як удзяліць св. Камунію братам і сёстрам, што чакалі смяротнага прысуду ў вязніцы? Дарослыя, наведваючы родных і перадаючы ім Гостыю, часта самі станавіліся ахвярамі, трапіўшы пад падазрэнне вартаўнікоў. А малы хлопец не прыцягваў ніякай увагі, што дазваляла яму паспяхова выконваць адказнае заданне.

Прытуліўшы да сэрца завернутае ў хустачку Цела Пана, Тарсіцый імчаў праз горад да зняволеных таварышаў. Аднак аднойчы яму заступілі шлях. Падлеткі зачапілі хлопца без асаблівай прычыны, але сцяміўшы, што іменна ён трымае пры сабе, задумалі зняважыць Бога. ***“Ніколі, ніколі, пакуль я жывы!”,*** – закрычаў Тарсіцый. У адказ на супраціў крыўдзіцелі збілі хлопца камянямі. Разагнаў падлеткаў выпадковы мінак, рымскі воін, які таксама быў патаемным хрысціянінам. Расціснуўшы пальцы скрываўленага Тарсіцыя, ён убачыў Гостыю.

Пабоі аказаліся смяротнымі. Хлопчык адышоў у Неба, атрымаўшы там іншую місію – быць заступнікам для літургічнай службы алтара.

### Бл. Лаўра Вікунья. Аддаць жыццё за навяртанне маці

Лаўра нарадзілася ў Чылі 1891 годзе, калі ў краіне панавала грамадзянская вайна. Крывавыя часы забралі бацьку дзяўчыны і прымусілі ўсю яе сям’ю пакінуць радзіму. На чужбіне маці Лаўры Мэрсэдэс чакалі яшчэ большыя цяжкасці. У Аргенціне валадарыла галеча ды распуста, і жанчына мусіла клапаціцца пра 2-юх дачок, застаўшыся без грошай і даху над галавой. З адчаю Мэрсэдэс прыняла прапанову мясцовага землеўладальніка Мануэля Мора стаць ягонай каханкай.

Сеньёр Мора адрозніваўся крайняй пажадлівасцю і жорсткасцю. Ён часта біў і абзываў Мэрсэдэс, але жанчына цярпела здзекі дзеля дзяўчынак. Дзякуючы грошам, якія яна артымлівала ад Мануэля, яе дочкі паступілі ў школу-інтэрнат, дзе выкладалі сёстры салезіянкі.

Падчас навучання старэйшая Лаўра пачала пазнаваць Хрыста. Даведаўшыся пра сакрамант сужэнства, яна зразумела, што яе маці згадзілася на сужыцельства дзеля дабра сваіх дачок, але такая сувязь аддаляла матулю ад Бога.

З гэтага моманту кожная малітва, кожны ўчынак Лаўры здзяйсняўся ў інтэнцыі “вызвалення” Мэрсэдэс. Пакорнасць дзяўчынкі дапамагала ёй быць трывалай у размове з Богам, а яе выключная працавітасць дазваляла брацца за самыя цяжкія абавязкі. Пра ахвярнасць дзяўчыны добра сведчыць адзін з прыкладаў. Нейк яна выклікалася прыбіраць двор у непагадзь замест сваёй аднакласніцы, нягледзячы на пашкоджаныя студзёным надвор’ем пальцы.

Аднак намаганні Лаўры не прыносілі рэзультату. Да таго ж, вярнуўшыся дадому на летнія канікулы, пасталеўшая дзяўчына сутыкнулася з дамаганнямі з боку сеньёра Мора. Яе адмовы выклікалі ў мужчыне яшчэ большую настойлівасць і агрэсіўнасць. Не атрымаўшы пажаданага, ён моцна збіў дзяўчынку. Не знайшоўшы абароны ў запалоханай маці, Лаўра вярнулася ў інтэрнат.

У новым навучальным годзе верніца прыняла сакрамант канфірмацыі. Атрымаўшы дары Святога Духа, Лаўра знайшла ў сабе адвагу звярнуцца да Госпада з гераічнай просьбай: ***“Прымі маё жыццё ўзамен выратавання маці. Я гатова”.*** І Бог выслухаў яе.

Праз пэўны час дзяўчынка захварэла. Прастуда набывала ўсё больш складаную форму і неўзабаве зусім пазбавіла дзіця моцы. Перад смерцю Лаўра вызнала матулі, што на працягу 2-ух гадоў ахвяравалася ў яе інтэнцыі. Узрушаная Мэрсэдэс упершыню за доўгі час прыступіла да сакраманту споведзі. Яна пакінула Мануэля Мора.

Лаўра адышла да Нябеснага Айца, не меўшы поўных 13 гадоў. Пад сваю апеку бласлаўлёная ўзяла ўсе разбітыя сем’і.

### Слуга Божая Ганна дэ Гінье. Навярнуцца і служыць прыкладам для грэшнікаў

Ганна нарадзілася ў 1911 годзе ў Францыі ў заможнай графскай сям’і. Была надзвычай шкодным, нават дэспатычным дзіцём. Бацькі былі вымушаны наймаць для яе 2-юх нянек, замест адной, але марна – тыя збягалі праз тыдзень, не зладзіўшы з непаслухмянай дзяўчынкай. Ганна магла паабрываць усе кветкі з клумбы, абазваць прыслугу або сыпануць пяском у вочы малодшаму брату.

Перамены ў паводзіны дзяўчынкі ўнёс пачатак Першай сусветнай вайны і гібель бацькі. Ганна захацела Неба для таты і суцяшэння для мамы, што падштурхнула яе звярнуцца да Бога. З заняткаў рэлігіі дзіця зрабіла выснову, што адной малітвы недастаткова, таму пачала “чыніць дабро” настолькі, наколькі ёй дазваляла яе “дзікая натура”: дзяўчынка вырашыла перастаць адбіраць цацкі ў аднагодкаў. Невялічкія дабрадзействы паступова ператвараліся ў высакародныя ўчынкі. Ганна, не маючы поўных 10 гадоў, арганізавала збор сродкаў для суседзяў, якія пацярпелі ад пажару, занялася вязаннем цёплых рэчаў для людзей у патрэбе, аддала ўсе свае цацкі бедны сем’ям.

***“Я больш ніколі не буду падобнай да колішняй Ганны”,*** – пісала яна ў сваім дзённіку. Дзіця, якое ўсвядоміла сваё навяртанне, пачало кожны ўчынак і малітву ахвяраваць Езусу ў інтэнцыі грэшнікаў.

Дзяўчынка песціла думку, што, калі падрасце, уступіць у кляштар, але Бог меў іншы план. У 11-гадовым узросце, пасля нядоўгай, але пакутлівай хваробы, Ганна спачыла. Яшчэ пры жыцці яе малітвы прывялі ў канфесіянал старажыла Людвіга “з сэрцам, як камень” (так казалі пра яго тамтэйшыя жыхары). А пасля смерці дзяўчынкі вестка пра яе выключную набожнасць разышлася па ўсёй Францыі, натхняючы тых, хто страціў Бога, ізноў прыйсці да Яго.

У 1990 годзе папа Ян Павел ІІ пацвердзіў гераічнасць цнот Ганны дэ Гінье, абвясціўшы яе Слугой Божай. Гэта з’яўляецца першым крокам да прызнання дзяўчынкі бласлаўлёнай, а пасля, магчыма, і святой.

*Ангеліна Марцішэўская*

# "Шануй бацьку свайго і маці сваю". Разважаючы над 4-ай запаведдзю

## Неідэальныя

Неяк натрапіла ў інтэрнэце на канферэнцыю польскага дамініканца а. Адама Шустака на тэму 4-ай запаведзі. Ведаеце, фенаменальнае разважанне. Пасля праслухоўвання ўбачыла за вядомай з дзяцінства фармулёўкай не абавязак бяздумна кахаць сваіх бацькоў, а рэальную ацэнку ўзаемаадносін паміж дзецьмі і татам з мамай. Элемент, якога мне вельмі не хапала ў разуменні гэтай запаведзі.

Чаму так важна ўсведамляць, што Бог нам не наказвае беспярэчна кахаць сваіх бацькоў? А таму, што яны ў нас неідэальныя. Кагосьці выхоўвалі ў любові, з мінімумам памылак, кагосьці – менш удала. Іншых кахалі няўдала, наносячы балючыя раны, пакідаючы ў сэрцы дзюры. Каб зразумець падводзіны нашых бацькоў і прабачыць ім, патрэбна ўнутраная свабода, якая вынікае, між іншым, са ўсведамлення таго, што мець абгрунтаваныя прэтэнзіі да таты і мамы – гэта нармальна (ненармальна засяроджвацца на іх і не ісці ў бок прабачэння).

## Кахаем, як умеем

Рызыкну сцвердзіць, што большасць з нас – і маладых, і сталейшых – як каменне, носіць у сабе непрабачаныя крыўды з дзяцінства. З камянямі ісці нязручна, цяжка: не падбяжыш, каб хутчэй дабрацца да мэты, не падскочыш ад радасці, у пары з кімсьці таксама крочыць не вельмі зручна, бо запавольваеш хаду, а гэта цяжар для абодвух. Так і з крыўдамі: незалежна ад таго, усведамляем мы іх ці не, яны ўплываюць на наша штодзённае жыццё. Чалавек не проста так баіцца браць адказнасць за свае выбары, не проста так не любіць сябе, не проста так шукае пацвярджэнне сваёй вартасці ў позірках мужчын, не проста так не можа спыніцца на адносінах з адной жанчынай, не проста так не спраўляецца з пастаянным пераяданнем, не проста так крыўдзіць слабейшых і г. д. Сябе і іншых мы любім, як умеем, так, як нас любілі ў сям'і і як мы самі навучыліся. (Зрэшты, гэта адносіцца і да нашых бацькоў.)

## "Шануй" – значыць "трывай"

Вяртаючыся да канферэнцыі, адзначу, што ў ёй манах распавядае пра дакладнае значэнне выразу "шануй" у словах запаведзі. У перакладзе з габрэйскай мовы ён азначае штосьці цяжкае, тое, што складана пераносіць, што прыціскае да зямлі. "Шанаваць" у запаведзі азначае не аддаваць хвалу, а трываць. Бог нібы кажа: "Трывай, калі гэта вельмі складана, не адварочвайся". Дзякуючы гэтым словам я асэнсавала, што Стварыцель блізкі нашым праблемам, усведамляе іх існаванне, бачыць нашу крыўду і разумее сітуацыю, у якой знаходзімся. І гэта наступны вельмі важны момант для ўспрыняцця слоў 4-ай запаведзі і для прабачэння.

Што значыць трываць, калі маем цяжкасці ў адносінах з татам і мамай? Гэта значыць адважыцца іх кахаць, бо ў чым сэнс любові, калі не ў тым, каб кахаць "цяжкіх" для нас людзей. І гэта не значыць, што мы не павінны называць, як ёсць, нашыя з бацькамі ўзаемаадносіны альбо іх адсутнасць. Пан дасканала ведае, што любіць тых, хто знаходзіцца найбліжэй да нас, хто побач усё жыццё, вельмі цяжка. Таму дае нам такую запаведзь, каб мы адважыліся не адкідваць гэтага. І нават калі вельмі складана і акалічнасці такія, што трэба збудаваць пэўную дыстанцыю, нельга кідаць, бо Ён нас стварыў і даў здольнасць менавіта так кахаць. Мы маем гэтае каханне ў сабе.



*P.S. Варта памятаць, што ў цяжкіх адносінах ці то з бацькамі, ці то з сябрамі, у нейкіх складаных сітуацыях на працы ці ў асабістым жыцці мы не пакінуты самі сабе. Бог, як добры псіхолаг (найлепшы), як блізкі сябар (найбліжэйшы), як хтосьці, каго вельмі цэнім, літаральна кажучы, знаходзіцца побач.*

Кацярына Паўлоўская

# О ответственности у детей и винить ли родителей за трудности в собственной жизни



*Ольга Парада,*
*комментарий психолога*

**Быть ответственным – значит отвечать не перед кем-то, а за самого себя: свои чувства, поступки, решения, желания, отношения. Все это человек может контролировать и изменить, если, конечно, захочет.**

## Как формируется ответственность в детстве?

У ребенка меньше возможностей для выбора, он только учится «управлять» своей жизнью. Родители для него являются поддержкой и опорой, у них больше опыта и ответственности.

Если родители ругают ребенка, то таким образом, они учат его не быть ответственным за свои поступки и действия, а избегать этой ответственности, не быть виноватым. Можно поговорить с ребенком, объяснить, что он что-то сделал не так и кому-то было больно или неприятно. Так ребенок будет учиться видеть свои ошибки. Иногда, когда малыш упал или ударился, родители говорят что-то наподобие: «Ну-ну! Какой плохой порог, ударил моего Мишу». Так они перекладывают вину на внешние объекты. Ребенка, конечно, можно и нужно утешить в такой ситуации, но также ему необходимо объяснить, что надо быть внимательным и осторожным.

Встречаются родители, которые боятся передавать своим детям ответственность из-за собственного страха и неуверенности. Они делают за ребенка то, что он в силах сделать сам. Например, когда малыш начинает пытаться самостоятельно кушать с ложки, а маму не устраивают последствия трапезы (грязный пол, стены, одежда). Или когда школьник старается без помощи родителей делать домашние задания, а потом выносит последствия этого в школе. Подобное поведение ребенка может быть неудобным. Таких примеров много, но это те маленькие шаги, когда ребенок только учится принимать ответственность за собственные поступки и их последствия, а родители могут помочь ему в этом. Напротив, бывает так, что родители могут наделять своих детей большой ответственностью, которая становится для них непосильной ношей. Например, в ситуациях, когда ребенок становится для мамы с папой смыслом жизни или они переносят на него ответственность за свою нереализованность.

Тема ответственности очень многогранна и связана с темой личностных границ. Человеку трудно понять, за что он отвечает, если собственные границы у него размыты и он не знает, где его «личное», а где «чужое». Родители должны научить видеть эту грань. И смысл заключается не только в том, что они говорят ребенку «чужого не берем», но и сами стараются не нарушать его личное пространство: не входят в детскую комнату без стука, не роются в личных вещах.

Ребенок взрослеет тогда, когда видит перед собой успешную модель взросления. Поэтому родители для него являются опорой и надежным островком безопасности, которые помогают справляться с трудностями. Так в будущем ребенку будет легче делать аналогичное самому.

## Ошибки родителей – винить ли их за это?

Винить родителей во взрослой жизни – одно из ярких проявлений инфантильности. Инфантильность человека заключается в зависимости и эгоцентризме, а главное – в отсутствии желания брать ответственность за свою жизнь. Чтобы ни делали родители, какую бы боль они не причинили своим детям, их поступки можно объяснить тем, что по-другому они не умели. Каждый несет в собственную семью ту модель воспитания, которую получил в родительском доме. Например, отец может считать нормальным физическое насилие над сыном, оправдывая себя тем, что его тоже били в детстве и «ничего, вырос же человеком». Есть семьи, где не принято хвалить ребенка, говорить ему добрые слова и проявлять ласку, потому что у родителей не было примера в проявлении теплых чувств. Раньше в нашей стране не были так популярны обучающие семинары и тренинги для родителей. Посещение таких мероприятий – хорошая возможность пересмотреть или взглянуть под другим углом на то, «как я воспитываю своего ребенка». Если беспокоит его поведение, можно обратиться за помощью к психологу. Но чаще всего это следствие родительских ошибок и недопонимания в выстраивании отношений.

Если ребенок получил в семье заботу, любовь, внимание, поддержку и участие, значит, он сможет передать это своим детям. А если ничего кроме критики, осуждений и наказаний он не видел и не слышал, то, к сожалению, будет нести негативный опыт в свою семью. Так или иначе, идеальных родителей не бывает.

Но в моей практике встречаются люди, которые готовы принять правду о себе, о своем детстве. Есть и те, кто пытается оправдать действия своих родителей. Тогда детские страдания взрослых находят продолжение в их собственных детях.

Тяжело и страшно становиться взрослым, а значит и ответственным. Но у каждого человека есть выбор: учиться понимать себя, своих детей, проживать боль и обиду своего детства, или взваливать это на собственного ребенка. Взять ответственность за свою жизнь – значит сказать самому себе, что никто не виноват и никто ничего Тебе не должен. Ведь никто не проживет Твою жизнь за Тебя.




**CatholicNews.by**

### *100 дзён у шляху і малітве*

***Такую амбіцыйную мэту паставілі арганізатары паломніцтва-падзякі з нагоды стагоддзя незалежнасці Латвіі. Пілігрымка пачалася з Аглоны і пройдзе ўздоўж межаў краіны.***

*Ініцыятар праекта – а. Арніс Мазілеўскіс, пробашч у Бебрэнесі. Ён растлумачыў, што паломніцтва з'яўляецца сімвалічнай падзякай Богу за радзіму, яе незалежнасць і мову. Менавіта таму айцец заклікаў да ўдзелу ў пілігрымцы не толькі католікаў, але і ўсіх хрысціян. Святар разумеў, што далёка не кожны можа сабе дазволіць 3 месяцы падарожжа, таму прапанаваў, каб жадаючыя далучаліся да групы хаця б на 1-2 дні. Суправажджаць паломнікаў можна і духоўна, у прыватнасці на партале Facebook.*




### *Папскі "Lamborghini" сышоў з малатка*

***Эксклюзіўны спорткар быў прададзены на аўкцыёне за 715 тыс. еўра.***

*Выручаны даход будзе прызначаны на 3 дабрачынныя праекты: адбудову дамоў, грамадскіх памяшканняў і храмаў у іракскай Нінэвіі, для забеспячэння вяртання туды мясцовых хрысціян; падтрымку жанчын, якія сталі ахвярамі гандлю людзьмі і прастытуцыі (у рамках праекту "Дом папы Францішка"); а таксама на фінансаванне праектаў у Афрыцы.*

*"Lamborghini Huracan" з 2-ма залацістымі палоскамі на капоце – у колер ватыканскага сцяга – падарылі Святому Айцу напрыканцы 2017 года. Папа пакінуў на аўтамабілі свой аўтограф. Гэта ўнікальная версія спорткара, якая існуе ў адзіным экземпляры.*




### *Знойдзены старажытны падземны касцёл у Сірыі*

***Археолагам удалося натрапіць на алтар, калоны, грэчаскія надпісі і каменныя крыжы.***

*Падземны касцёл з мяжы III-IV стагоддзяў адшукалі каля горада Манбідж. Знаходка тым больш здзіўляе, бо адкрыта на землях, што знаходзіліся пад кантролем Ісламскай дзяржавы, вядомай знішчэннем немусульманскіх помнікаў. Сістэма драўляных падземных галерэй пад горадам была таемным сховішчам для хрысціян, праследуемых тады ва ўсёй Рымскай Імперыі, у склад якой і ўваходзілі ў тыя часы гэтыя землі.*

# ТАЯМНІЦЫ САКРАЛЬНЫХ ЭКСПАНАТАЎ МУЗЕЯ ЯНУША ПАРУЛІСА



**Прыватны музей гісторыі горада і быту Януша Паруліса з'яўляецца адным з найцікавейшых і, бадай, самым арыгінальным у Гродне. Там знаходзіцца некалькі дзесяткаў тысяч разнастайных экспанатаў: старыя дакументы, газеты і кнігі, мэбля, фатаграфіі, вырабы са шкла і фарфору, музычныя інструменты, вопратка, цацкі, прадметы штодзённага ўжытку, фотаапараты, нават фрагменты сцен, цэглы і чарапіцы. Калекцыянер стварыў музей, каб яго госці маглі адчуць атмасферу даўніх часоў, дзякуючы багатай калекцыі гістарычных аб'ектаў, што з'яўляюцца фрагментамі гісторыі горада над Нёманам. Сярод іх ёсць і экспанаты на рэлігійную тэматыку. Прапануем наведаць гэтае выключнае месца і прыглядзецца да сакральных скарбаў.**

## УНІКАЛЬНЫЯ ВЫДАННІ СВЯТОГА ПІСАННЯ




У фондах музея знаходзіцца некалькі выданняў Бібліі: на лацінскай, польскай, беларускай, англійскай мовах, а таксама экземпляр, напісаны кірыліцай. Асаблівай увагі заслугоўваюць 2 кнігі. Першая з іх – Біблія з ілюстрацыямі Гюстава Дарэ па-польску (у перакладзе кс. Якуба Вуйка), выдадзеная ў 1874 годзе. На старонках Старога і Новага Запавету можна ўбачыць вялікіх мужоў веры: праайцоў, прарокаў і апосталаў, знамянальныя падзеі з гісторыі старажытнага Ізраэля і пачатак "новых часоў" – Божы план збаўлення людскога роду Езусам Хрыстом. Чорна-белыя малюнкі ўтрыманы ў рамантычным настроі фантастыкі, жаху і адначасова гратэску. Усе сцэны вельмі дынамічныя. Нават, здавалася б, статычныя, яны напоўнены экспрэсіяй і неспакоем. 2-ая кніга, якую нельга пакінуць без увагі, – гэта ілюстраванае "Святое Пісанне", выдадзенае ў 1925 годзе ў Познані. Дзякуючы малюнкам, на якіх адлюстраваны найважнейшыя біблійныя гісторыі, нават неадукаваны чалавек зразумее сэнс пададзенай гісторыі. Гэтая выключная кніга ўключае ў сябе таксама ўкладыш "Сямейная хроніка", дзе можна ўпісваць прысвячэнні і важныя заўвагі, напрыклад, пажаданні з пэўнай нагоды, імёны членаў сям'і, даты іх нараджэння, хросту, Першай св. Камуніі, канфірмацыі.

## САКРАЛЬНЫЯ АБРАЗЫ І ФІГУРЫ



У музеі Януша Паруліса іх сапраўды дастаткова шмат. Большасць прадстаўляе эпізоды са Старога і Новага Запавету, з жыцця Найсвяцейшай Панны Марыі, выявы святых і благаслаўлёных, а таксама падзеі з гісторыі і жыцця Касцёла. Сярод іх вылучаюцца абразы Маці Божай Астрабрамскай і Маці Божай Чанстахоўскай – працы, выкананыя мясцовымі майстрамі, а таксама чорна-белыя абразы, выціснутыя на тканіне, дзе адлюстраваны Пан Езус, св. Тэрэза і св. Станіслаў Костка.

Увагу прыцягваюць таксама бюст Хрыста і фігура ўваскрослага Езуса. Апошняя была прывезена з-пад Слоніма. Як расказаў спадар Януш, на яе натрапіў стрыечны брат ягонай жонкі, калі непадалёк ад горада рамантавалі чыгунку. Там стаяла некалькі закінутых хатак. На гарышчы адной з іх ён знайшоў мяшочак, а ўнутры – старую скульптуру, якую, хутчэй за ўсё, выкарыстоўвалі падчас рэзурэкцыйных працэсій.

## МАЛІТОЎНІКІ І КНІЖКА "ЖЫВЫ РУЖАНЕЦ"




Гэтыя прадметы каштоўныя не толькі з-за свайго "ўзросту", але і з-за таго, што захоўваюць сямейную гісторыю. Старыя малітоўнікі ўключаюць усе найважнейшыя малітвы і скарочаны катэхізіс. Адзін з іх, выдадзены на французскай мове, калісьці належаў бацьку калекцыянера.

"Жывы Ружанец" – гэта памятка аб бабулі, Эміліі Паруліс. На першай старонцы кніжкі, выдадзенай у 1935 годзе, змешчана рэгістрацыйная карта члена Кола Жывога Ружанца. У ёй запісаны асабістыя даныя, назва парафіі і нумар Ружы. На чарговых старонках знаходзіцца апісанне абавязкаў членаў Жывога Ружанца, даты адпустаў і ўмовы, пры якіх іх могуць атрымаць удзельнікі супольнасці.

## ЭКСПАНАТЫ Ў ПАМЯЦЬ ПРА ПАПУ ПАЛЯКА




Спадар Януш захапіўся асобай св. Яна Паўла ІІ яшчэ падчас яго пантыфікату, паколькі бачыў у Святым Айцы прыклад чалавека высакароднага, мудрага, адкрытага на іншых, які карыстаўся аўтарытэтам і ўсеагульнай пашанай. Сярод рэчаў, што адлюстроўваюць незвычайную місію і паслугу папы Яна Паўла ІІ і распаўсюджваюць веды пра яго жыццё і навучанне, ёсць разнастайныя кнігі, паштоўкі, малітоўнікі, календары, тэлефонныя карты з яго выявай, скрыначкі для ружанца, медалі і манеты, выдадзеныя з нагоды яго пантыфікату. На юбілеі важных падзей з жыцця святога калекцыянер стараецца выстаўляць гэтыя прадметы як асобную экспазіцыю.

## КРЫЖЫ АКТЫВІСТАЎ "САЛІДАРНАСЦІ"




Гэтыя драўляныя сімвалы веры прыгадваюць аб польскіх барацьбітах за незалежнасць. На іх ад рукі напісаны словы бл. кс. Юрыя Папялушкі.

## ГАБЕЛЕН "АПОШНЯЯ ВЯЧЭРА"



Унікальнасць твора заключаецца ў тым, што выкананы ён як люстраное адлюстраванне і дапасаваны так, каб мог размяшчацца ў куце пакоя. Мае каля 200 гадоў, некалі знаходзіўся ў касцёле ў Ваўкавыску. Падчас рамонту брыгада будаўнікоў паліла старыя рэчы, сярод якіх аказаўся і гэты габелен. Януш Паруліс у той час таксама працаваў пры аднаўленні святыні. Так яму ўдалося выратаваць палатно.

**У адрозненне ад большасці музеяў, унікальная пляцоўка, створаная Янушам Парулісам, дзейнічае "па запатрабаванні" ў любую гадзіну, а экспанаты можна ўзяць у рукі.**

**Адрас музея: Гродна, вул. Лермантава, 25; тэл.: (8 033) 604-90-08.**

*Кінга Красіцкая*

## НАВІНЫ



### "ДОМ ДЛЯ МАМЫ – НАЗАРЭТ"

Пад такой назвай у Гродне адкрыўся першы ў Беларусі дом для маці, якія апынуліся ў цяжкіх жыццёвых абставінах. Яго заснавалі манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта.

Урачыстае адкрыццё і асвячэнне Дома для мамы здзейсніў кс. бп Аляксандр Кашкевіч. Перад гэтым іерарх узначаліў св. Імшу ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі, дзе маліўся ў інтэнцыі ўсіх, хто паклаў пачатак гэтай добрай справе, а таксама за ахвярадаўцаў і будучых жыхароў дома.

"Дом для мамы – Назарэт" заснаваны, каб дапамагчы жанчынам, якія не могуць справіцца з асабістымі праблемамі, а таксама каб прапагандаваць абарону зачатага жыцця праз псіхалагічную дапамогу, апеку над маці да і пасля нараджэння дзіцяці. Сёстры прыстасавалі пад дом будынак свайго старога кляштара. У ім назарэтанкі могуць прыняць на акрэслены час да 8-мі маці з дзіцём адначасова. У доме ёсць жылыя пакоі, кухня, пральня, кабінет псіхолага. Ахвяраваная дапамога акрамя пражывання ў гэтым доме ўключае таксама псіхалагічную падтрымку і духоўную апеку.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Дыяканы Андрэй Каўшук, Эрнэст Мікалайчык і Раман Вайцяховіч завяршылі апошні этап семінарыйнай фармацыі, якую праходзілі на працягу 7-мі гадоў у Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

Падчас св. Імшы, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, дыяканы зрабілі для сябе "рахунак сумлення" адносна таго, як выкарысталі дадзены Богам час на здабыванне ведаў і іншых духоўных каштоўнасцей. Біскуп, у сваю чаргу, пажадаў выпускнікам дзень за днём аднаўляць у сабе першапачатковае прагненне ўзрастання ў святасці і любові да бліжняга, прыкладам свайго жыцця і веры дапамагаць людзям усталёўваць глыбокія адносіны з Богам і працягваць даручаную Хрыстом справу.

### ПАСТЫРСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч здзейсніў кананічную візітацыю парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску. Яе цэнтральнай падзеяй стала св. Імша, падчас якой пастыр удзяліў вернікам сакрамант канфірмацыі. Таксама іерарх наведаў парафіі Божага Цела ў Крамяніцы і Найсвяцейшай Тройцы ў Шылавічах.

Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі здзейсніў кананічную візітацыю парафіі св. Міхала Арханёла ў Поразаве, а таксама наведаў 5 капліц, якія знаходзяцца на тэрыторыі парафіі. У святыні ў Поразаве іерарх удзяліў сакрамант канфірмацыі групе моладзі.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Кс. канонік Цэзарый Міх, пробашч парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Юзафа рамесніка ў Скідзелі, адсвяткаваў 30-годдзе святарскага служэння. • Дыякан Аляксандр Ашмянчук, які паходзіць з парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Васілішках, прыняў прэзбітэрскае пасвячэнне ў касцёле бл. Анэлі Салявы ў Кракаве. • Парафіяльны фэст пад назвай "Па-сямейнаму у Духа" прайшоў у парафіі Святога Духа ў Гродне. • У парафіі Спаслання Святога Духа ў Бярозаўцы адбылася адпустовая ўрачыстасць, падчас якой выступіў з канцэртам музычны гурт Гродзенскай ВДС "AVE". • У парафіі Маці Божай Анёльскай у Гродне адбыўся "Вечар з Марыяй", падчас якога гучалі вершы і спяваліся песні ў гонар Маці Божай. • У Навагрудку прайшоў III Фестываль сям'і, арганізаваны парафіяй св. Міхала Арханёла.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**1 чэрвеня 1964 г.** – кс. Францішак Кафарскі, *проб. Іўе;*
**4 чэрвеня 1967 г.** – кс. Ян Вінажэндзіс, *проб. Нача;*
**6 чэрвеня 2015 г.** – кс. Ян Занеўскі, *проб. Квасоўка;*
**8 чэрвеня 1981 г.** – кс. Юзаф-Мар'ян Масангер SJ, *проб. Солы;*
**10 чэрвеня 1998 г.** – кс. прэлат Міхал Варанецкі СМ, *ген. вік., Гродзенская ВДС.*

## АНОНСЫ

### ДУШПАСТЫРСТВА ЦВЯРОЗАСЦІ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў ЧАНСТАХОВУ

**У яе межах паломнікі прымуць удзел у Яснагорскіх сустрэчах цвярозасці, якія адбудуцца 2–3 чэрвеня.**

Жадаючым паўдзельнічаць у пілігрымцы ў санктуарый Маці Божай Чанстахоўскай на Яснай Гары неабходна мець візу.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 033) 325-57-64, Юрый Гапонік.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ БАЦЬКІ АДБУДЗЕЦЦА Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Мерапрыемства па традыцыі адзначаецца ў першую нядзелю чэрвеня. У святынях Гродзенскай дыяцэзіі вернікі моляцца за тых, хто даў ім жыццё, а для памерлых бацькаў просяць вечнага шчасця ў небе.**

Сёлетняя ўрачыстасць адбудзецца 3 чэрвеня ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі. У гэты дзень туды вырушыць пешая пілігрымка з Гродна. Да ўдзелу запрашаюцца бацькі, а таксама ўсе мужчыны, каб прасіць у Панны Марыі ласкаў для сваіх сем'яў.

### ПАРАФІЯДА ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ Ў 10-ТЫ РАЗ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства пад дэвізам "Жыць Евангеллем" будзе праходзіць 18–21 чэрвеня на тэрыторыі гродзенскіх парафій Беззаганнага Зачацця НПМ (мікрараён Паўднёвы) і Найсвяцейшага Адкупіцеля (мікрараён Дзевятоўка), а таксама на стадыёне ЦСК "Нёман".**

**Умовы ўдзелу:**

- узрост удзельнікаў – ад 10-ці да 19-ці гадоў *(катэгорыя "A" – 2005-2008 г. н., катэгорыя "B" – 2002-2004 г. н., катэгорыя "C" – 1999-2001 г. н.);*
- кошт удзелу – 3 руб. *(існуе магчымасць вызвалення ад аплаты);*
- з сабой неабходна мець аформленую медыцынскую карту ўдзельніка Парафіяды з ксеракопіяй пашпарта *(31–33 с.);*
- максімальная колькасць удзельнікаў ад адной парафіі – 15 чалавек + апякун.

*Пацвердзіць удзел у Парафіядзе неабходна да 1 чэрвеня па тэлефоне: (8 033) 624-35-22 або (8 029) 319-54-56, кс. Артур. Спіс удзельнікаў Парафіяды неабходна даслаць да 15 чэрвеня на электронны адрас a-malafei@mail.ru. Да ўдзелу запрашаецца моладзь з усёй Беларусі.*

### РАДА ПА СПРАВАХ СЯМ'І ПРЫ ККББ ЗАПРАШАЕ НА КУРСЫ-РЭКАЛЕКЦЫІ

**Яны адбудуцца 22–27 чэрвеня ў Навагрудку (вул. 1 Мая, 26).**

Падчас сустрэчы ўдзельнікі змогуць паглыбіць свае веды адносна пытанняў веры, сямейнага жыцця, спосабаў будавання добрых стасункаў у сужэнстве. Кожны атрымае магчымасць задаць хвалюючыя пытанні падчас адмысловага пункту праграмы "100 пытанняў да...". Удзел у курсах-рэкалекцыях могуць прыняць усе зацікаўленыя і асабліва тыя, хто рыхтуецца стаць або ўжо працуе кансультантам сямейнага жыцця.

*Запіс да 15 чэрвеня па тэлефоне (8 029) 588-42-73 або праз электронную пошту meleshko_irina@mail.ru (Ірына Мялешка).*

### АДБУДЗЕЦЦА IV ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ЛІДА – БУДСЛАЎ

**Яна пройдзе з 23 чэрвеня па 2 ліпеня пад дэвізам "Верыць. Разумець. Сведчыць".**

Паломнікі традыцыйна пераадолеюць шлях даўжынёй 250 км. Маршрут будзе пралягаць праз тэрыторыю Гродзенскай дыяцэзіі і Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 029) 121-10-82, кс. Дзяніс Бразінскі.*

### "ШКОЛА НАРАДЖЭННЯ" ПРОЙДЗЕ Ў НАВАГРУДКУ

**Курс заняткаў для сужэнцаў, гінеколагаў, акушэраў і іншых зацікаўленых запланаваны на 6–11 ліпеня.**

Яго мэта – падрыхтоўка бацькоў да натуральных родаў, а таксама фармацыя інструктараў, якія будуць дапамагаць маладым сем'ям у перадродавы перыяд.

**"Школа" прапануе цыкл сустрэч:**

- выкананне спецыяльнай гімнастыкі;
- музыкатэрапія;
- адпачынак, рэлакс;
- падрыхтоўка да нараджэння;
- догляд новайнароджанага.

Заняткі праходзяць у цікавай і разнастайнай форме: слуханне лекцый, прагляд фільмаў і малітва за дзяцей. "Школа нараджэння" носіць хрысціянскі характар, бо грунтуецца на асабістай размове з Богам. Галоўны пункт дня – Эўхарыстыя.

*Запісацца на курс можна да 26 чэрвеня па электронным адрасе meleshko_irina@mail.ru або па тэлефоне: (8 029) 588-42-73, Ірына Мялешка.*

## Каляндар падзей

***27 мая***
*Урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы.*

***31 мая***
*Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста (Божае Цела).*

***1 чэрвеня***
*Сусветны дзень дзіцяці. Молімся за дзяцей і клапоцімся аб іх рэлігійным выхаванні. Распачацце чэрвеньскага набажэнства.*

***3 чэрвеня***
*Дыяцэзіяльны дзень бацькі. Молімся ў інтэнцыі жывых і памерлых бацькаў.*

***8 чэрвеня***
*Урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Сусветны дзень малітвы аб святасці святароў. Не абавязкова ўстрымлівацца ад мясных страў.*

***9 чэрвеня***
*Успамін Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Чэрвень***
*Каб хрысціянскія сем'і дыяцэзіі, якія перажываюць крызіс, маглі духоўна аднавіцца і былі гатовыя пайсці на ахвяру любові дзеля карысці агульнай і сваіх дзяцей.*




Канікулы – выдатны час. Ты з нецярпеннем чакаеш канца навучальнага года і пачатку адпачынку. Падчас вучобы сядзіш над кнігамі і сшыткамі, стараючыся здабыць як мага больш ведаў. А калі навучальны год заканчваецца, будуеш планы, як прыемна правесці летнія месяцы.

Гэты вольны час таксама з'яўляецца выдатнай нагодай, каб праверыць, ці можаш жыць паводле правіл, якім навучыўся падчас катэхезы. Яго можна назваць "экзаменам" па добрым жыцці. І хоць на ім не будзе пытанняў, каб адказаць вусна або пісьмова, Ты павінен добра памятаць аб сваіх хрысціянскіх абавязках: заўсёды і ўсюды, дзе б не праводзіў адпачынак. Раніцай і ўвечары Бог будзе чакаць, калі Ты паразмаўляеш з Ім, раскажаш пра новых сяброў, прыгоды, уражанні... Яму можна даверыць абсалютна ўсё. Усемагутны ніколі не здрадзіць Цябе, свайго сябра.

Езус прагне, каб Ты дазволіў Яму ўвайсці ў сваё сэрца падчас нядзельнай св. Імшы. Ён дапаможа радавацца свету, асабліва маляўнічаму і прыгожаму падчас канікул. Каб вакацыйная паездка прайшла паспяхова, неабходна добра спакавацца. Сёння разам паспрабуем разабрацца, што трэба ўзяць з сабой у дарогу.

## Што патрэбна на канікулах?



**Аня прыйшла да мяне са сваім заплечнікам. Ёй здавалася, што ў ім занадта шмат рэчаў. Дзяўчынка папрасіла параіць, чаго можна не браць у падарожжа. Давайце разам дапаможам Ані спакаваць багаж. Будзьце ўважлівымі, каб не нарабіць памылак, калі будзеце пакавацца перад паездкай!**

**Найлепш узяць з сабой у падарожжа заплечнік і скласці ў яго толькі неабходнае.**

**– Тры тоўстых світэры. Ці будуць яны патрэбныя на летніх вакацыях? Можа, дастаткова ўзяць адзін і пакласці іншую вопратку, больш лёгкую?**

**– Спартыўны абутак. Без яго ты не зможаш бегаць, гуляць у футбол.**

**– Кнігі для наступнага класа. Аня, думаеш, трэба браць іх? Здаецца, канікулы – гэта час, каб адпачыць ад падручнікаў. Можаш узяць з сабой цікавую кнігу з апавяданнямі альбо штосьці з літаратуры, якую трэба прачытаць на наступны навучальны год. А яшчэ я б параіла пачытаць пра якога-небудзь святога.**

**– Малітоўнік. Ён будзе патрэбны падчас паездкі? Так! Кожны добры хрысціянін павінен памятаць, што няма канікул ад Пана Бога. Усемагутны ніколі не адпачывае, клапоцячыся пра нас у кожны момант. Таму трэба карыстацца малітоўнікам і на канікулах, памятаючы пра абавязковую нядзельную св. Імшу, споведзь у першую пятніцу месяца і штодзённую малітву.**

**– Некалькі цацак. Навошта так шмат? А можа, ты ўзяла іх, каб зрабіць падарунак сваім новым сябрам, якіх набудзеш падчас канікул? Гэта добрая ідэя.**

**– Ружанец. Ці патрэбны ён на адпачынку? Так! Ружанец – гэта малітва, падчас якой ты можаш аддаць Марыі ўсе свае смуткі і радасці, а таксама ўзгадаць сваіх сяброў ці памаліцца разам з імі.**

**– Таксама трэба памятаць пра асабістую гігіену і пакласці з сабой патрэбныя для гэтага сродкі.**

**Вось цяпер, Аня, твой заплечнік напоўнены ўсім неабходным. Замест непатрэбных рэчаў лепш узяць добры гумар і вялікае сэрца, якім будзеш дзяліцца з іншымі.**

Выкарыстай прадастаўлены час як мага больш плённа, таму што падчас канікул Ты можаш стаць лепшым!

**Заданне:** штовечар падчас малітвы не забудзь падзякаваць Богу за ўсё дабро, перажытае на працягу дня.

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі. На пытанні заўсёды гатовыя адказаць сёстры салезіянкі са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**
з нагоды 27-ай гадавіны біскупскай сакры прагнем скласці сардэчныя пажаданні шчодрых Божых ласкаў. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай пастырскай паслугі, Езус заўсёды будзе Сябрам, а Марыя прытуляе да сябе.
*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай на Вас шчодра сыходзяць Божыя ласкі, стала адчуваецца апека Божай Маці і святога Заступніка, дары Святога Духа ўмацоўваюць, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі. Жадаем моцнага здароўя, сіл і стойкасці на выбраным шляху, а таксама штодзённай радасці і надзеі.
*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**
з нагоды 8-годдзя святарскай паслугі перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, радасці і цярплівасці, Божай ласкі і няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Жадаем такой моцнай веры, як самы вялікі дыямент, такой нязгаснай надзеі, як гарачае летняе сонца, такой вялікай Божай любові, як увесь Сусвет. Ад усяго сэрца дзякуем за дабрыню, адкрытасць, мудрыя парады і клопат пра нас і касцёл.
*Былыя парафіяне з вёсак Падвялікае, Рандзілаўшчына, Скрундзі*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**
з нагоды 8-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем здароўя, радасці, задавальнення ад выконваемай паслугі. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае сваім святлом, а Маці Божая прытуляе да сэрца. Прагнем выказаць словы ўдзячнасці за добразычлівасць, культуру, шчырасць і сардэчнасць. Дзякуем за даступнае тлумачэнне Божага слова і катэхізацыю. Нізкі паклон бацькам за сына святара.
*З павагай, вернікі з парафіі Мсцібава*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу**
з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем стойкасці, душэўнага супакою, радасці і ўсяго самага лепшага. Няхай Вам спадарожнічае блізкасць Таго, Хто паклікаў на святарскі шлях. Няхай Бог вядзе Вас прамымі сцежкамі, адорвае здароўем і сілай на доўгія гады жыцця, дазваляе як мага даўжэй служыць будаўніцтву Яго Валадарства на зямлі.
*З малітвай і павагай, парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Андрэю Радзевічу**
з нагоды 20-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сілы і стойкасці, веры, надзеі і любові. Дзякуем за ўдзяленне сакраманту Эўхарыстыі, абвяшчэнне Божага слова, ахвярную працу, цярплівасць, дабрыню і веліч сэрца. Аддзяч, Божа!
*Сям'я Мінько з Бярозаўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу**
з нагоды 20-годдзя святарства перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, мудрасці, цярплівасці. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю, святлом, ласкай. Няхай добры Бог адорвае благаслаўленнем, Езус Хрыстус ахоўвае ад бед, а Маці Божая, святы Заступнік і Анёл-ахоўнік нястомна трымаюць Вас у сваёй апецы.
*Вернікі з Бярозаўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Чэславу Паўлюкевічу**
з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя на доўгія гады паслугі, верных людзей побач, усіх Божых ласкаў і нястомнай апекі Панны Марыі. Жадаем такой моцнай веры, як самы вялікі дыямент, такой нязгаснай надзеі, як гарачае летняе сонца, такой вялікай Божай любові, як увесь Сусвет. Няхай добры Бог за ўсё Вас узнагародзіць!
*З малітвай і павагай, сем'і Радзевіч з Радуні, Ліды і Бярозаўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю**
з нагоды чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў і юбілею 60-годдзя складаем букет сардэчных віншаванняў. Няхай міласэрны Бог благаслаўляе кожны дзень Вашага жыцця, Маці Божая атуляе плашчом сваёй апекі, а Святы Дух адорвае ўсімі неабходнымі ласкамі. Шчыра дзякуем за добрае сэрца, заўсёды адкрытае на нас, за ўвагу і клопат. Аддзяч, Божа!
*З малітвай, жыхары в. Мештуны і вернікі з в. Скярсі*

**Паважаны Ксёндз Канонік Ян Рэйшаль!**
Сардэчна віншуем Вас з нагоды 60-годдзя з дня нараджэння і 26-ай гадавіны святарскай паслугі ў жалудоцкім касцёле. Няхай ад Бога Айца Вам здароўе і сіла даецца, і як сэрца Езуса, праменіцца Вашае сэрца. Няхай ад Святога Духа сыходзяць на Вас мудрасць і ўменне, а ад Маці Божай – разважнасць і ласкавасць. Жадаем шчасця бясконца многа, святла ў жыцці, нястомнай энергіі ў штодзённай паслузе, людской добразычлівасці і моцнага здароўя.
*З павагай, вернікі з капліцы Ліпічна*

**Паважаным Айцам Пробашчу Вітольду Пяцельчыцу, Віталю Слуку, Яну Асіповічу, Віталію Сярко**
з нагоды ўрачыстасці Спаслання Святога Духа жадаем, каб жыццё складалася толькі з добрых спраў. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом, каб шлях, па якім мы крочым разам з Вамі, быў плённы.
*Кола Жывога Ружанца св. Максімільяна са Шчучына*

**Паважаны Ксёндз Канонік Ян Рэйшаль!**
З нагоды юбілею складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, благаслаўляе кожны дзень святарскай паслугі, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды, а святы Заступнік нястомна абараняе і асцерагае. Выражаем пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на ніве Пана, за мудрыя навукі, якія дапамагаюць нам быць сапраўднымі хрысціянамі, за імкненне наблізіць нас да Бога. Ад усяго сэрца дзякуем за ахвярную службу Богу і людзям.
*Вернікі з Жалудка*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю**
з нагоды юбілею перасылаем букет найлепшых пажаданняў, спалучаных з малітвай: моцнага здароўя на доўгія гады, Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці, дароў Святога Духа. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за больш чым 20-гадовую нялёгкую працу ў нашай святыні і яе рамонт пасля пажару. Дзякуем за адданасць людзям. Шчасці Божа!
*З малітвай і павагай, вернікі з Моцевічаў*

**Паважаны Ксёндз Валерый Лісоўскі!**
З нагоды Дня нараджэння жадаем, каб міласэрны Бог узнагародзіў Вас моцным здароўем, стойкасцю, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай, а Святы Дух асвячае дарогу і дорыць супакой. Шчасці Божа!
*Парафіяне з касцёла Імя НПМ, Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Урбановічу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: шчодрых дароў Святога Духа, усіх Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, шмат сіл і здароўя для рэалізацыі Божых планаў, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху.
*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Андрэю Бураку**
з нагоды 16-ай гадавіны прэзбітэрскіх пасвячэнняў ад шчырага сэрца жадаем вялікай ласкі ад Бога. Няхай той дар святой паслугі, які Вы атрымалі ад Святога Духа і аддаеце людзям, вяртаецца да Вас у бязмежнай Божай міласэрнасці. Здароўя Вам, апекі і благаслаўлення Найсвяцейшай Маці, а таксама малітоўнай падтрымкі ад усіх, за каго моліцеся.
*Вернікі з парафіі Лаздуны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Баклажцу**
з нагоды 15-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, аптымізму, надзеі, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай кожны дзень душпастырскай паслугі будзе напоўнены радасцю і супакоем, а праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён. Мы ўдзячны Вам за адданую службу ў нашай парафіі, абвяшчэнне Божага слова, цудоўны прыклад веры і мудрасці, адкрытае сэрца і нястомны клопат аб кожным з нас. Няхай Святы Дух умацоўвае Вас сваімі дарамі, падтрымлівае ў абвяшчэнні свету Добрай Навіны, адорвае стойкасцю і мудрасцю, Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды апекуецца, а Анёл-ахоўнік падтрымлівае, асабліва ў цяжкія хвіліны жыцця.
*З малітвай, вернікі з парафіі Божага Цела, Крамяніца*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**
з нагоды Дня нараджэння жадаем усіх Божых ласкаў, доўгіх гадоў жыцця і мноства радасных хвілін. Няхай Езус заўсёды будзе Сябрам, Святы Дух асвячае кожны дзень святарскага сужэння, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святы Заступнік апекуецца Вамі. Вельмі чакаем сустрэчы ў суражскай капліцы.
*Малітоўнае кола "Маргарытка"*

**Паважанаму Айцу Станіславу Садоўскаму**
з нагоды Імянін, Дня нараджэння і чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, радасці і цярплівасці ў нялёгкай паслузе. Жадаем моцнай веры, нязгаснай надзеі і бязмежнай Божай любові.
*З памяццю ў малітве, былыя парафіяне са Студзенікаў*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**
з нагоды 35-годдзя святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні шчодрых Божых ласкаў, благаслаўлення ад Усемагутнага і толькі радасных хвілін у жыцці. Няхай Езус Хрыстус будзе Правадніком на ўсіх жыццёвых шляхах, Святы Дух нястомна ўдзяляе свае дары і дапамагае ў святарскім служэнні, а Найсвяцейшая Маці заўсёды апекуецца Вамі і будзе побач.
*Парафіяне з Новай Руды*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Мураву**
з нагоды 24-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем шчырыя пажаданні. Мы, парафіяне, удзячны Богу за тое, што маем магчымасць удзельнічаць у св. Імшы, слухаць Божае слова, якое робіць нас больш добрымі і міласэрнымі. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цяплом, радасцю, дабрынёй, любоўю, надзеяй і верай. Сардэчна жадаем мноства сіл, цярплівасці, нястомнага запалу ў служэнні Богу і моцнага здароўя.
*Парафіяне з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла, Жупраны*

**Паважанаму Айцу Андрэю Ядкоўскаму**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем нязгаснага запалу веры, моцнага здароўя, сіл і радасці. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божай любоўю і міласэрнасцю, а Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца, асабліва ў цяжкія хвіліны жыцця.
*Дыяцэзіяльнае апостальства дапамогі чыстцовым душам*

**Дарагому Ксяндзу Паўлу Эйсманту**
з нагоды 5-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў і Імянін перасылаем букет сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя на доўгія гады, шмат радасці, сіл і стойкасці, цярплівасці ў душпастырскай паслузе, людской добразычлівасці, Божага благаслаўлення, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай кожны Твой дзень будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці.
*З малітвай, бацькі і брат з сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу**
з нагоды 15-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай у Вашым жыцці будзе больш цяпла, зразумення, падтрымкі ад людзей. Няхай добры Бог адорвае радасцю, цярплівасцю і апраменьвае сваім святлом, а святы Заступнік абараняе кожны дзень. Ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады.
*Вернікі з Падбалоцця*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Міхалу Васількевічу**
з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем Божага благаслаўлення і плённай душпастырскай працы ў нашай парафіі. Няхай Бог благаслаўляе Вас на кожнае пачынанне, Святы Дух падтрымлівае сваімі дарамі, а Марыя ахінае мацярынскай апекай і любоўю, напаўняючы сэрца пачуццём бяспекі і спакою. Дзякуем бацькам за сына святара і жадаем ім мноства радасці.
*Парафіяне з Ізабеліна*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. (**8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2731; тыраж 5240; абʼём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная